# Голас Радзімы

№ 31 (2121)
3 жніўня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





На канцэрты гэтага музыканта трапіць не так ужо і лёгка. Паслухаць саліста Белдзяржфілармоніі арганіста Канстанціна ШАРАВА прыязджаюць іншым разам і з суседніх Літвы і Латвіі, з Масквы. Пра тое, як працуецца маладому арганісту, і пра «арганныя» праблемы ў нас у рэспубліцы чытайце матэрыял на 6-й старонцы «Партрэт на фоне аргана».

Фота С. КРЫЦКАГА.

СЕСІЯ

## АБМЕРКАВАННЕ ВАЖНЫХ ПРАБЛЕМ

У Мінску адбылася чарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР. На яе разгляд былі вынесены важныя пытанні жыцця рэспублікі. Сесія вызваліла ад абавязкаў Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі Г. Таразевіча ў сувязі з абраннем яго старшынёй Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета СССР. Абсалютнай большасцю галасоў пры двух устрымаўшыхся Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР быў абраны Мікалай Дземянцей, які дагэтуль працаваў сакратаром ЦК КПБ.

З дакладам «Аб Дзяржаўнай праграме па ліквідацыі ў Беларускай ССР вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС» выступіў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Еўтух. Па дакладу прайшлі спрэчкі. Многія з дэпутатаў выказвалі незадаволенасць узроўнем распрацаванасці прапанаванай праграмы, яшчэ раз падкрэслівалі трывожнасць і вастрыню сітуацыі, што склалася на тэрыторыях, забруджаных радыеактыўнымі элементамі, патрабавалі больш рашучых і канкрэтных дзеянняў. Пасля актыўнага абмеркавання дэпутаты згадзіліся, што праграма патрабуе дапрацоўкі, і прынялі адпаведную пастанову. На сесіі была ўтворана Пастаянная камісія па пытаннях ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС Вярхоўнага Савета БССР. Яе старшынёй выбран дэпутат І. Смоляр — сакратар Гомельскага абкома КПБ.

Па прапанове намесніка Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліча ўтворана Камісія Вярхоўнага Савета БССР па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статусу беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі. Таксама была прынята пастанова аб утварэнні пры Вярхоўным Савеце БССР Камісіі па аказанню садзейнічання ў забеспячэнні правоў і інтарэсаў рэабілітаваных і ўвекавечанні памяці ахвяр рэпрэсій, што мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў.

Сесія разгледзела таксама іншыя пытанні, прыняла Указы.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## АД ІМЯ САВЕЦКАГА ПАРЛАМЕНТА

Сродкі масавай інфармацыі ад імя Вярхоўнага Савета СССР распаўсюдзілі «Зварот да савецкага народа». У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Падзеі апошняга часу, забастоўкі і стачкі, нацыянальныя канфлікты, якія ўспыхваюць то ў адным, то ў другім рэгіёне, паказваюць, што перабудова ў нашай краіне перажывае востры і цяжкі перыяд. Ствараецца сітуацыя, якая патрабуе максімальнага аб'яднання ўсіх сіл, што выступаюць за далейшае развіццё працэсу радыкальнай эканамічнай рэформы, дэмакратызацыі, публічнасці.

Вярхоўны Савет СССР падзяляе і падтрымлівае законныя патрабаванні працоўных, адносіцца з поўным разуменнем да іх імкнення больш рашуча весці перабудову, ламаць бюракратычныя перашкоды на шляху да стварэння новых умоў працы і жыцця ўсіх людзей, кожнага члена нашага грамадства.

Усведамляючы ўсю паўнату сваёй адказнасці перад народам, Вярхоўны Савет СССР абавязвае саюзны ўрад ужо цяпер неадкладна сканцэнтраваць увагу на вырашэнні самых неадкладных праблем — прадуктаў харчавання, транспарту, гандлю, аховы здароўя, рэжыму і аплаты працы, умоў адпачынку. Дапамогу ў гэтым акажа прынятае нядаўна па прапанове дэпутатаў рашэнне аб павелічэнні на 10 мільярдаў рублёў закупак тавараў народнага спажывання і лякарстваў. Народныя дэпутаты СССР падтрымліваюць ініцыятывы партыі, прафсаюзаў, грамадскіх арганізацый перадаць са сваіх бюджэтаў частку сродкаў, каб ужо з кастрычніка 1989 года павысіць мінімальны ўзровень пенсій малазабяспечаным катэгорыям пенсіянераў.

Вярхоўны Савет СССР гарантуе, што на працягу гэтай і асеннявай сесій будуць прыняты законы, якія забяспечаць сапраўдную самастойнасць і самакіраванне працоўных калектываў, правa распараджацца прадпрыемствамі і вынікамі ўласнай працы, перадачу на справе зямлі сялянам, забяспечаць суверэнітэт і гаспадарчы разлік рэспублік, створаць умовы для дэмакратычнага выбрання прадстаўнікоў народа ў мясцовыя і рэспубліканскія органы ўлады, абарону правоў і свабод кожнага грамадзяніна».

У дакуменце гаворыцца, што для ажыццяўлення глыбокіх пераўтварэнняў эканамічнай структуры нашага грамадства, усяго жыцця людзей патрэбны час, настойлівая і сумленная праца. У Звароце падкрэсліваецца, што забастовачны рух, міжнацыянальныя канфлікты ў розных рэгіёнах не дапамагаюць справе, а могуць выклікаць ланцуговую рэакцыю ў многіх галінах народнай гаспадаркі, узмацніць крызіс у эканоміцы, аддаліць вырашэнне тых пытанняў, дзеля якіх яны праводзяцца, рэзка затармазіць перабудову.

НОВЫЯ ТАВАРЫ

## ПАЧАТА ВЫТВОРЧАСЦЬ

Прадметам асаблівых клопатаў калектыву Мінскага мотавелазавода стала двухколавая машына тыпу «ВМХ». Гэтыя веласіпеды знешне нагадваюць спартыўныя матацыклы і прызначаны для дзяцей і юнакоў, якія захапляюцца гонкамі па перасечанай мясцовасці. Дзякуючы павышанай праходнасці, манеўранасці «ВМХ» вельмі зручныя на трасах з трамплінамі, рэзкімі спускамі і пад'ёмамі, крутымі паваротамі. У нашай краіне дасюль «ВМХ» не выпускаліся, але на заводзе ўсё ж узяліся за незнаёмую справу, тым больш, што ёсць немалы попыт на такую прадукцыю.

Першыя ўзоры навінак былі паспяхова выпрабаваны ў Латвіі, дзе згаданы від спаборніцтваў становіцца ўсё больш папулярным. Там нават утворана федэрацыя ВМХ-спорту, якая аб'ядноўвае дваццаць клубаў. З адным з іх заключаны дагавор аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве. Гэта дапаможа ўдасканаліць мадэль з улікам канкрэтных вынікаў спартыўных спаборніцтваў, у тым ліку міжнародных.

НА КНІЖНУЮ ПАЛІЦУ

## ПАРКІ РЭСПУБЛІКІ

У Беларусі нямала старажытных гарадоў і пасёлкаў, якія славяцца сваімі паркамі, сядзібнымі ансамблямі. Кобрын і Сноў, Жылічы і Навагрудак, Вялікае Мажэйкава Шчучынскага і Падароск Ваўкавыскага раёнаў. Хто хоць раз пабываў тут, не забудзе непаўторную прыгажосць старажытных паркаў. У гэтых узорах мастацтва мінулых стагоддзяў, культуры народа ёсць і чароўная прыгажосць, і лірызм, і спакой беларускай прыроды.

Усе напрамкі і этапы развіцця паркавых ансамбляў на працягу больш трохсот гадоў аналізуюцца ў кнізе навуковага супрацоўніка Батанічнага сада БССР А. Федарука «Садова-паркавае мастацтва Беларусі», якая выйшла нядаўна ў рэспубліканскім выдавецтве «Ураджай». На жаль, адзначаецца ў ёй, вельмі многія паркі былі разбураны, загінулі... Але галоўная вартасць кнігі ў тым, што ў ёй паказана перспектыва аднаўлення паркаў, палацавых ансамбляў і іх выкарыстанне. Кніга дае звесткі не толькі аб тым, што захаваўся, але і напамінае, што яшчэ не позна зрабіць.

ПАСЛЯ З'ЕЗДА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ

## ЧАС ЦЯЖКІХ АДКАЗАЎ

**Ва ўмовах аднапартыйнасці ў СССР насельніцтва прывыкла да таго, што партыя адказвае за ўсё і ўсё кантралюе. Пакуль развіццё савецкага грамадства ішло дастаткова дынамічна, прапаганда даволі паспяхова падтрымлівала лозунг, што за ўсімі перамогамі стаіць партыя. Цяпер, калі стала відавочным, што ў грамадстве накапілася шмат балючых праблем, віна за ўсе цяжкасці аўтаматычна, па той жа схеме, пераносіцца на партыю.**

Партыя не ўхіляецца ад адказнасці. Кіраўніцтва КПСС прызнала, што многія эканамічныя і сацыяльныя складанасці з'яўляюцца вынікам палітычнага і ідэалагічнага дагматызму.

Ачышчэнне ідэалогіі ад путаў дагматызму з'яўляецца зараз адной з важнейшых задач КПСС. Аднак на гэтым шляху партыя сутыкаецца з сур'ёзнымі цяжкасцямі. На працягу многіх гадоў, нават дзесяцігоддзяў ідэалагічная работа вялася ва ўмовах палітычнага камфорту: вастрыні крытыкі, дыскусій была штучна прыглушана. Ідэолагі не прывыклі дзейнічаць ва ўмовах плюралізму думак, публічнасці і цяпер, калі ў краіне прарвала плаціну крытыкі, партыйныя работнікі, як правіла, аказваюцца ў абароне.

Было б несправядлівым сцвярджаць, што партыя забарыкадавалася на сваіх пазіцыях і не жадае ўступаць у дыялог. КПСС ужо зрабіла рэвізію многім уласным догмам і ўяўленням. Яшчэ зусім нядаўна плюралізм думак абвяргаўся ідэолагамі партыі як ерась. Цяпер аб неабходнасці такога плюралізму гавораць самі лідэры КПСС, у тым ліку і Міхаіл Гарбачоў. Яшчэ нядаўна нефармальныя арганізацыі падвяргаліся ганенням як несумяшчальныя з палітычнай сістэмай СССР, а зараз ідэолагі партыі заклікаюць шукаць канструктыўны дыялог з гэтымі арганізацыямі. Аднапартыйнасць у СССР да апошняга часу ўспрымалася як аксіёма, а зараз па гэтаму пытанню ў грамадстве ідзе адкрытая дыскусія. Дынаміка «пераацэнкі каштоўнасцей» такая, што ў сферы ідэалогіі літаральна на вачах здымаюцца апошнія табу. Зусім нядаўна здавался, што партыя і ўлада непадзельныя, што партыя — гэта і ёсць улада. Зараз з вуснаў Анатоля Лук'янава, абранага на З'ездзе першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета СССР, мы чуем заявы аб «раздзяленні ўлады». «Партыя, ЦК КПСС — гэта палітыка. З'езд народных дэпутатаў, Вярхоўны Савет — гэта ўлада, Савет Міністраў—гэта аператыўная выканаўчая работа»,— сказаў ён у нядаўнім інтэрв'ю газеце «Известия».

Яшчэ зусім нядаўна было б дзіўным чуць ад афіцыйнага ідэолага, якім з'яўляецца ў краіне Вадзім Мядзведзеў, заявы пра тое, што «сацыялізму і сацыялістычным краінам не супрацьпаказана наяўнасць некалькіх партый». Зараз гэтую заяву друкуе штотыднёвік «Аргументы і факты», які мае самы вялікі тыраж у краіне. ЦК КПСС, застаючыся прыхільнікам захавання аднапартыйнасці, не імкнецца закрыць дыскусію па гэтаму вострому пытанню, а нават стымулюе яе. Ідэолагі КПСС спрабуюць пераканаць грамадскасць у тым, што аднапартыйная сістэма ў сацыялістычным грамадстве не выключае дэмакратычнага працэсу ў тым выпадку, калі сама партыя дзейнічае дэмакратычнымі метадамі і абапіраецца на шырокую сістэму грамадскіх арганізацый, якія выказваюць думкі, інтарэсы і пазіцыі розных слаёў насельніцтва.

Як бы падводзячы вынікі шэрагу выступленняў па пытаннях ідэалогіі, што прагучалі на З'ездзе народных дэпутатаў, Вадзім Мядзведзеў сказаў, што ідэалагічная работа будзе карэнным чынам мяняцца. Партыя ўсвядоміла неабходнасць весці шырокі дыялог з усімі грамадскімі сіламі краіны, ісці на кампрамісы, уключаць у пошук выйсця з дагматычных тупікоў усе зацікаўленыя ў перабудове сілы.

Вячаслаў КОСЦІКАЎ.

ЭКАЛОГІЯ





**Напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета БССР, у парадак дня якой уваходзіла абмеркаванне комплексу праблем, звязаных з ліквідацыяй вынікаў Чарнобыльскай аварыі, у Мінску адбыўся масавы мітынг гараджан. Яго тэма — праблемы экалогіі ў Беларусі і выжыванне нацыі. Ён быў санкцыяніраваны гарадскім Саветам, а сярод арганізатараў значыліся БНФ «Адраджэнне», прадстаўнікі рэспубліканскага руху «зялёных». На мітынгу прагучала шмат трывожна ўсхваляваных выступленняў, прыводзіліся факты абыякавых, няўважлівых адносін да патрэб людзей, што жывуць у зоне забруджанай радыеактыўнымі элементамі. Беларускія вучоныя распрацавалі канцэпцыю, па якой мяжой усіх населеных пунктаў, дзе радыцыйная забруджанасць дасягае 15 кюры на квадратны кіламетр, трэба перасяляць у іншыя месцы. Народны дэпутат СССР, прарэктар Белдзяржуніверсітэта Станіслаў Шушкевіч, які выступіў на мітынгу, назваў такое адсяленне абавязковым і тэрміновым. Віктар Бур'як, намеснік кіраўніка спраў Савета Міністраў Беларусі, расказаў пра распрацаваную і падрыхтаваную да абмеркавання ў Вярхоўным Савеце БССР праграму па адсяленню людзей з амаль чатырохсот населеных пунктаў — 103 тысячы чалавек. Як падлічана, на гэта трэба каля 10 мільярдаў рублёў. Было падкрэслена, што і фінансавыя, і матэрыяльныя выдаткі павінны быць пакрытыя не за кошт рэспублікі, а з саюзнага бюджэту, таму што Беларусь стала ў поўным сэнсе бязвіннай ахвярай. Акрамя чарнобыльскай, у рэспубліцы, на жаль, шмат і іншых экалагічных праблем. І адна з галоўных тут, як адзначалася на мітынгу, — забруджванне навакольнага асяроддзя прамысловымі прадпрыемствамі і аўтатранспартам. Прыводзіліся факты, што летась, напрыклад, выкіды шкодных рэчываў у Мінску склалі больш за 350 тысяч тон. У рознай ступені забруджана 96 працэнтаў тэрыторыі горада, а рака Свіслач, што цячэ праз нашу сталіцу, адносіцца да найбольш забруджаных у краіне.**

**На мітынгу была прынята рэзалюцыя з шэрагам прапаноў па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Яна перададзена дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі.**

**Аднак на мітынгу гучалі і недастаткова ўзважаныя заявы. Называліся нерэальныя тэрміны перасялення людзей з пацярпеўшых ад радыяцыі раёнаў — на працягу года. На жаль, раздаваліся заклікі да стварэння стачачных камітэтаў, да правядзення папераджальнай забастоўкі ў выпадку, калі ўсе ультыматыўныя патрабаванні не будуць выкананы.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час мітынгу.**

# ЗВАРОТ

**БЕЛАРУСКАГА КАМІТЭТА АБАРОНЫ МІРУ, БЕЛАРУСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ САВЕЦКАГА ФОНДУ МІРУ, БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА», БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ МІЛАСЭРНАСЦІ І ЗДАРОЎЯ, ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖА БССР, БЕЛАРУСКАЙ ЕПАРХІІ РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ**

## ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ВА ЎСІХ КУТКАХ СВЕТУ

Беларусы і рускія, украінцы і яўрэі, палякі і літоўцы, людзі іншых нацыянальнасцей, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі! Усе, хто, пакінуўшы Беларусь, захаваў аб ёй і яе народзе добрую памяць!

Да вас звяртаюцца члены Беларускага камітэта абароны міру, Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру, Беларускага таварыства «Радзіма», Беларускага фонду міласэрнасці і здароўя, Таварыства Чырвонага Крыжа БССР, Беларускай епархіі Рускай праваслаўнай царквы.

Гісторыя не раз падвяргала народ Беларусі цяжкім выпрабаванням. Толькі Другая сусветная вайна пазбавіла жыцця кожнага чацвёртага жыхара Беларусі, сцёрла з твару зямлі больш палавін і нацыянальнага багацця, створанага рукамі нашых землякоў за многія дзесяцігоддзі. Гэтыя ахвяры—цана за жыццё і свабоду не толькі беларускага, але і іншых народаў, усяго чалавецтва. І вось у мірны час на нашу зямлю нечакана зваліласся новая бяда—аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, якая знаходзіцца на граніцы з рэспублікай.

Асабліва цяжкія выпрабаванні выпалі на долю жыхароў Гомельскай і Магілёўскай абласцей нашай рэспублікі. Дзесяткі населеных пунктаў перасталі існаваць: іх жыхары эвакуіраваны ў іншыя раёны рэспублікі, у чыстыя ад радыяцыі месцы. Такі ж лёс чакае ў бліжэйшы час тысячы жыхароў іншых населеных пунктаў. Бяда, нягледзячы на намаганні, якія прымаюцца, пакуль не адступае.

Асаблівы боль і трывогу ў нашых сэрцах выклікае небяспека для здароўя людзей, і ў першую чаргу дзяцей. Таму мы вымушаны звярнуцца да вас за дапамогай.

**Нас могуць спытаць: чаму ж вы да гэтага часу маўчалі? Чаму не прасілі дапамогі? Адказваем: галоўным чынам таму, што ніхто, нават буйныя спецыялісты, не змаглі адразу вызначыць ні маштабаў, ні вынікаў трагедыі. Яна аказалася намнога сур'ёзней, чым можна было меркаваць.**

Урадавыя органы і грамадскія арганізацыі Беларусі і краіны робяць нямала для ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай аварыі і аднаўлення здароўя людзей, якія пацярпелі ад радыяцыі. На гэтыя мэты ўжо выдаткавана больш 1 мільярда рублёў. Але, нягледзячы на гэта, мы востра адчуваем недахоп некаторых радыяцыйных вымяральных прыбораў і медыцынскага дыягнастычнага абсталявання.

Нам вельмі патрэбны:

— дазіметры індывідуальнага і групавога карыстання;

— апаратура ультрагукавой дыягностыкі (многафункцыянальная);

— эндаскапічная апаратура для даследавання органаў грудной клеткі і органаў стрававання;

— лічыльнікі выпраменьвання чалавека;

— гемат[illegible]чныя аўтаматы лабараторныя (фірмы «Секвоя», ЗША).

**Заклапочаныя жыццём і здароўем пацярпеўшых ад радыяцыі людзей, мы звяртаемся да вас, нашы суайчыннікі за рубяжом, за дапамогай. Мы з удзячнасцю ўспрымем водгук не толькі ад выхадцаў з Беларусі, але і ад іншых добрых людзей, дабрачынных груп або арганізацый.**

Беларускі камітэт абароны міру, Беларускае аддзяленне Савецкага фонду міру, Беларускае таварыства «Радзіма», Беларускі фонд міласэрнасці і здароўя, Таварыства Чырвонага Крыжа БССР, Беларуская епархія Рускай праваслаўнай царквы бяруць на сябе абавязкі акуратна збіраць усё, што паступіць у Беларусь на памянёныя мэты, абгрунтавана размяркоўваць маючым патрэбу і строга кантраляваць мэтавае выкарыстанне. Для гэтага мы маем неабходную колькасць самаадданых актывістаў.

**Мы верым у здольнасць людзей рабіць дабро, нягледзячы на розніцу ў палітычных поглядах і рэлігійных пераканаdebнях, і спадзяёмся, што гэта наша вера будзе падмацавана практычнымі справамі ўсіх тых, у каго аб Беларусі, яе народзе захавалася добрая памяць.**

**Можаце быць упэўнены, нашы зарубежныя суайчыннікі, што вашы добрыя дзеянні і бескарыслівасць не забудуцца ўдзячным беларускім народам.**

Зварот прыняты на пашыраным пасяджэнні Прэзідыума Беларускага камітэта абароны міру з удзелам паўнамоцных прадстаўнікоў Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру, Беларускага таварыства «Радзіма», Беларускага фонду міласэрнасці і здароўя, Таварыства Чырвонага Крыжа БССР, Беларускай епархіі Рускай праваслаўнай царквы.

Для паштовых адпраўленняў паведамляем наш адрас:

*БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ АБАРОНЫ МІРУ, БССР, 220029, МІНСК, СТАРАЖОЎСКАЯ, 5*

**І. ШАМЯКІН**, старшыня Прэзідыума Беларускага камітэта абароны міру, народны пісьменнік БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, **З. АЗГУР**, старшыня праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру, народны мастак СССР, Герой Сацыялістычнай Працы, **М. САВІЦКІ**, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма», народны мастак СССР, народны дэпутат СССР, **М. САЎЧАНКА**, старшыня праўлення Беларускага фонду міласэрнасці і здароўя, акадэмік АН БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, **В. СЁМУХА**, старшыня Цэнтральнага камітэта Таварыства Чырвонага Крыжа БССР, народны дэпутат СССР, член Вярхоўнага Савета СССР, **ФІЛАРЭТ**, мітрапаліт Мінскі і Беларускі, старшыня аддзела знешніх царкоўных зносін Маскоўскага патрыярхату, член свяшчэннага Сінода.





# СУМЕСНАЯ АКЦЫЯ



**«Экалогія і маральнасць» — такая акцыя адбылася ў рэспубліцы ўпершыню. Па ініцыятыве маладзёжнага экалагічнага клуба пры Цэнтральным камітэце камсамола Беларусі і маладзёжнага гаспадарчаразліковага аб'яднання «Сістэма» пры ўдзеле нарвежскага таварыства «МАЙ» праведзена сумесная экспедыцыя беларускіх і нарвежскіх эколагаў. Яе мэта — унесці ўклад у справу развіцця і замацавання супрацоўніцтва паміж заходнімі і сацыялістычнымі краінамі, у вырашэнні агульных экалагічных праблем.**

**Экспедыцыя пабывала ў Белавежскай пушчы і Бярэзінскім запаведніку. Тут яе ўдзельнікі знаёміліся з флорай і фаунай рэспублікі, абмяркоўвалі праблемы экалогіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: кіраўнік вучнёўскага таварыства «Юны эколаг» Неграрэльскай сярэдняй школы Канстанцін САЕВІЧ расказвае членам экалагічнага таварыства Нарвегіі пра флору і фауну Беларусі; браты-блізняты з Нарвегіі Бендык і Крыстофер МАМРАКІ атрымліваюць заданне па экалогіі; лясны прыгажун — алень; у музеі прыроды Белавежскай пушчы.**

**Фота У. ШУБЫ.**



## НА ПАЛЯХ УРУГВАЯ

Пры ўездзе на тэрыторыю фірмы «Фімека», што размешчана ў прыгарадзе ўругвайскай сталіцы, выстраіліся ў два рады каля двух дзесяткаў трактароў «Беларусь». Вось ужо 5 гадоў фірма «Фімека» займаецца збытам ва Уругваі універсальных трактароў, якія выпускае Мінскае вытворчае аб'яднанне «Беларусь-МТЗ». Ім дапамагае гэта рабіць інжынер Мікалай Кляніцкі.

— Продаж савецкіх трактароў, перш за ўсё маркі «Беларусь», — гаворыць Кляніцкі, — пачаўся ў 1984 годзе, калі да ўлады ва Уругваі прыйшоў грамадзянскі ўрад. Фірма «Фімека» стала пасрэднікам па іх збыту ў краіне. Прадала яна ўжо звыш 300 машын.

— Савецкія трактары знайшлі сваіх пакупнікоў, — гаворыць інжынер фірмы Дантэ Тома. — Праўда, гэта было няпроста. У фермераў, якія аддаюць перавагу тэхніцы з ЗША і Заходняй Еўропы, яшчэ моцная сіла прывычкі.

— Нашы трактары тут канкурэнтаздольныя, — заўважае Кляніцкі. — Зараз у мяне існуе сувязь з заводам напрамую, а не праз «Трактараэкспарт» у Маскве, як гэта было раней. У выніку я апэратыўна карэкцірую пастаўкі, хутка атрымліваю запчасткі. Цяпер кожная прызначаная на экспарт машына збіраецца з улікам кліматычных умоў, магчымасцей тэхнічнага абслугоўвання ў той ці іншай краіне. Нядаўна ўругвайцы паведамілі, што ёсць попыт на новую мадэль трактара «Беларусь» для работы на рысавых плантацыях. Былі прададзены ўсе трактары гэтай мадэлі. Зараз рыхтуем кантракт на пастаўку яшчэ адной партыі такіх машын. Усяго на палях Уругвая працуе зараз больш за 750 савецкіх трактароў. У 1988 годзе па колькасці прададзеных трактароў наша краіна выйшла на сёмае месца сярод паўтара дзесятка разнастайных фірм і кампаній, што дзейнічаюць ва Уругваі.

## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# ПЕРШЫ НАРКОМ ЗЕМЛЯРОБСТВА

**(Заканчэнне. Пачатак у № 30).**

Дзесяты з'езд КП(б)Б у студзені 1927 года поўнасцю падтрымаў наркома. Аднак пройдзе нямнога часу і правільная праграма прыцягнення сялян да меліярацыі з адпаведным дадатковым надзяленнем зямлёй, якая адпавядала ўмовам гаспадарання 20-х гадоў, будзе скажона, а Д. Прышчэпаву прад'яўлена беспадстаўнае абвінавачанне ў насаджэнні кулацтва.

Звыш 60 гадоў трымалася надуманае абвінавачанне Д. Прышчэпава ў насаджэнні хутароў у Беларусі, сталыпіншчыне, правым ухіле і іншых «грахах», ёмка названых «прышчэпаўшчынай». Як відаць з матэрыялаў тых гадоў, Д. Прышчэпаў увогуле не быў прыхільнікам толькі хутароў, ён глядзеў на іх як на часовую з'яву.

Абвяргаючы беспадстаўныя абвінавачанні ў наўмыснай хутарызацыі, правым ухіле, Д. Прышчэпаў гаварыў з гарыччу на пасяджэнні партkалегіі ЦК КП(б)Б: «Калі вы прачытаеце ўсе палітпісьмы, рашэнні пленумаў ЦК, то вы ўсе праводзімыя Наркамземам установкі там знойдзеце, а аб свабодзе выбару зямельных форм — у кодэксе». І далей, падкрэсліваючы, што ўся дзейнасць Наркамзема БССР і яго як наркома будавалася на падставе выканання дырэктыў партыі, указваў: «...таму што не можа ні адзін нарком праводзіць няправільную палітыку ні аднаго года, пра якую б не ведаў ЦК».

Доўгі час нядобразычліўцы Д. Прышчэпава бачылі ў ім працаўніка тэхнічнага пераасн ашчэння вёскі, апалагета патрыярхальшчыны, што зусім бяздоказна. Наадварот, ён быў гарачым прыхільнікам сталёвага каня, як тады называлі трактар, на сельскай ніве. Але ён бачыў нерэальнасць ажыццяўлення гэтай мары ў 1927 годзе, калі зямельная плошча калгаса складала не больш як 50—67 гектараў. Пры гэтым ён зыходзіў з таго рэальнага факта, што ні серадняк, ні тым больш бядняк, не змогуць у бліжэйшы час купіць у індывідуальнае карыстанне машыну. А калі б і купілі, то яна ў сілу нізкай таварнасці іх гаспадаркі скарыстоўвалася б не на поўную магутнасць, з'яўлялася б мёртвым капіталам. У 1928 годзе трактары складалі толькі 2,5 працэнта энергетычных магутнасцей сельскай гаспадаркі, рабочая жывёла — 94,8 працэнта.

Але асабліва ўсё пачне перавapочвацца з ног на галаву ў 1929 годзе, калі запануе курс на суцэльную калектывізацыю, тэмпы якой будуць штучна падганяцца, калі Д. Прышчэпаў з яго канцэпцыяй праходжання сялянствам школы разнастайных дакалгасных форм кааперавання стаў перашкодай на шляху паскоранага абагульнення дробнай вытворчасці. Ва ўмовах крутога павароту палітычнага курсу выказванні, думкі Д. Прышчэпава моцна скажаліся і дэфармаваліся. У імкненнях наркома правесці справядлівае землеўпарадкаванне, узняць індывідуальныя гаспадаркі сялян, уключыць іх у сістэму кааператыўных сувязей на падставе кантрактацыі з перапрацоўчай прамысловасцю, стварэння масларобных, сыраварных і іншых вытворчасцей убачылі тормаз калектывізацыі, хаця ім тым самым закладваліся асновы непрымусовага абагульнення. Так ставілася пад сумненне абсалютна неабвержная думка, выкладзеная ў выдадзенай у 1925 годзе пад рэдакцыяй Д. Прышчэпава кнізе «Сельская гаспадарка Беларусі і мерапрыемствы па яе аднаўленню», пра тое, што бліжэйшая перспектыва аднаўлення сельскай гаспадаркі залежыць, галоўным чынам, ад сялянскіх гаспадарак, якім належыць 99 працэнтаў зямель сельскагаспадарчага [illegible]ызначэння. Мы і сёння [illegible]ынайшлі нічога такога, што выключыла б нашу залежнасць ад працы селяніна.

У 1926 годзе група работнікаў Наркамзема і Дзяржплана БССР выязджала ў Данію і Галандыю для азна[illegible]ння з вопытам арганізацы[illegible]арнай вытворчасці. Было вырашана паслаць у яе складзе і Д. Прышчэпава. Сам жа Дзмітрый Філімонавіч асаблівага жадання не выказаў:

— Работы многа, ды і няма ў чым...

Аказалася, што ў наркома няма нават прыстойнага касцюма.

— Нічога, работа пачакае, — сказалі яму ў Саўнаркоме рэспублікі. — Паклапоцімся і пра касцюм.

Толькі пасля гэтага Д. Прышчэпаў здаўся. Вярнуўшыся пасля паездкі ў Данію, ён напісаў выдатны артыкул, у якім прааналізаваў узровень развіцця сельскай гаспадаркі ў гэтай краіне і ў Беларусі, расказаў пра тое, што заслугоўвала запазычання і прымянення ў нас. У прыватнасці, Д. Прышчэпава прыцягваў шырока распаўсюджаны ў Даніі і Германіі вопыт кааперавання сялянскіх гаспадарак. Як вядома, да рэвалюцыі гэтыя сувязі мелі тры чвэрці сялянскіх гаспадарак Расіі. Ленінская канцэпцыя кааперацыі якраз і базіравалася на гэтым вопыце. У сярэдзіне 20-х гадоў яго сталі ігнараваць, усё больш перамагала лінія прадузятых адносін да сялянства як перажытку феадалізму. «Мы крычым аб малазямеллі ў нас, — пісаў Дзмітрый Філімонавіч, — а тым часам каля трэцяй часткі зямлі, якой цяпер карыстаемся, пустуе. І ўсё ад таго, што не ўмеем весці гаспадарку, а такім майстрам, як мы, колькі зямлі ні давай, — усё роўна будуць крычаць, што яе мала. Варта ўсім сялянам задумацца над тым, як нам па прыкладу Даніі і Усходняй Прусіі скарыстоўваць усю цалкам зямлю».

Знаёмства з вопытам суседзяў, імкненне скарыстаць усё лепшае ў сябе літаральна акрыліла Дзмітрыя Філімонавіча. Ён быў поўны новых сіл і энергіі.

23 сакавіка 1929 года Д. Прышчэпаў прызначаецца першым намеснікам Старшыні Дзяржаўнай планавай камісіі пры СНК рэспублікі. Назначэнне радавала, яно адкрывала новыя магчымасці ў рабоце.

Аднак краіну ўжо ахутвае ноч, пачынаецца страшны шабаш. Сістэма разбэшчанага тэрору падмяла і Д. Прышчэпава. Ён не ўпісваўся ў новыя арыентацыі аграрнай палітыкі. Неўзабаве Дзмітрыя Філімонавіча знялі з пасады наркома земляробства, але ўпэўненасці ён не страчвае, просіць ЦК КП(б)Б накіраваць яго на вучобу ў Інстытут чырвонай прафесуры ў Маскве. Намеры добрыя, ЦК падтрымлівае іх, але яны не ажыццявіліся.

Я. Гамарнік, М. Галадзед, І. Васілевіч у маі 1929 года пішуць у характарыстыцы, што Д. Прышчэпаў мае вялікі вопыт у савецкай рабоце і асабліва па лініі зямельнай. Добры арганізатар, у рабоце праяўляе ініцыятыву. Але 11 верасня 1929 года Бюро ЦК КП(б)Б вызваліла яго ад абавязкаў першага намесніка Старшыні Дзяржплана БССР. На Д. Прышчэпава абрушваюцца нечуваныя абвінавачанні. Яго выключаюць з радоў ВКП(б).

Апусцела кватэра ў доме ля чырвонага касцёла. Разам з сям'ёй Д. Прышчэпаў, прызначаны загадчыкам Палескай раённай пясчанай станцыі, пераехаў у мястэчка Скрыгалава ў тагачасным Петрыкаўскім раёне. Пасяліліся ў двух невялікіх пакойчыках, акрамя кніг ды лыжкаў, у іх нічога не было. Мясцовыя жыхары і работнікі станцыі сустрэлі Дзмітрыя Філімонавіча з разуменнем і чалавечым спачуваннем. Каб менш адольвалі думкі, Д. Прышчэпаў з галавой акунуўся ў клопаты станцыі, не грэбаваў ні работай на канюшні, ні ў полі. Дзякуючы яго клопатам па рацэ Прыпяць у Скрыгалава была дастаўлена паравая машына. Цягнулі яе да месца ўстаноўкі, што называецца, грамадой. Колькі сапраўднай і шчырай радасці было ў людзей, калі загарэлася ў Скрыгалаве першая электрычная лямпачка. Старанне, сумленная работа Д. Прышчэпава адзначаліся ў характарыстыцы, выдадзенай яму Петрыкаўскім райкомам партыі.

У адказ на апеляцыю Д. Прышчэпава яго справу разглядала выязная парттройка. Вывады былі несуцяшальныя.

Зноў пацяклі дні пакутлівых чаканняў і надзей, якім не суджана было збыцца. Тут, у Скрыгалаве, 19 ліпеня 1930 года Д. Прышчэпаў быў арыштаваны. У абвінавачанні паўнамоцнага прадстаўніцтва АДПУ па Беларусі ўказвалася нібыта на прыналежнасць Д. Прышчэпава да ніколі не існаваўшай, але раскрытай і ліквідаванай контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якая на[illegible]валася да 1927 года «Саюза[illegible]адраджэння Беларусі», а з 19[illegible] года перайменавана ў «Саюз вызвалення Беларусі».

У кастрычніку 1930 года абвінаваўчае заключэнне Д. Прышчэпава і дзевяноста іншых удзельн[illegible]ў міфічнай арганізацыі па[illegible]ла ў судовую калегію АД[illegible] для вынясення абвінавачваемым пазасудовага прыгавору. Разам з Д. Прышчэпавым у прыналежнасці да неіснаваўшай антысавецкай арганізацыі, якую нібыта ўзначальвалі С. Некрашэвіч, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, А. Смоліч і іншыя так званыя нацыянал-дэмакраты, абвінавачваліся былы намеснік наркома земляробства А. Адамовіч, былы нарком асветы А. Баліцкі і былы намеснік старшыні «Белпайгандлю» П. Ільючонак. Кроў стыне ў жылах, галава ідзе кругам ад бязглуздых абвінавачанняў!

Сяброўскія сустрэчы на кватэры Д. Прышчэпава, у Янкі Купалы разглядаліся як старанна закамуфляваная змова нацдэмаў супраць пралетарскай улады. Праведзенае следства, мяркуючы па ўсім, не дало важкіх аргументаў, у выніку чаго абвінавачваемыя пастановай калегіі АДПУ ад 18 сакавіка 1931 года прысуджаны да дзесяці гадоў лагераў узмоцненага рэжыму.

Пакаранне Д. Прышчэпаў адбываў спачатку на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала, але хутка быў адпраўлены на Калыму. Здалёку пісаў ён пісьмы сям'і, імкнучыся падтрымаць жонку і дзяцей верай у будучую справядлівасць і вызваленне. У 1932 годзе Д. Прышчэпаву дазволілі спатканне з жонкай. Дзесяць дзён, праведзеныя Любоўю Апалінараўнай побач з мужам, былі апошняй іх сустрэчай і расстаннем назаўсёды.

У 1937 годзе сям'я Прышчэпавых, якая ўладкавалася пасля многіх пакут у пасёлку Рожынава Сафонаўскага раёна Смаленскай вобласці, атрымала тэлеграму, у якой Дзмітрый Філімонавіч паведамляў аб сваім датэрміновым вызваленні. Тэлеграма захавалася ў сям'і да сённяшніх дзён. Дачка і сын кожны дзень бегалі на чыгуначную станцыю сустракаць бацьку. Але сустрэча не адбылася. 13 жніўня 1937 года Д. Прышчэпава другі раз арыштавалі ў Магадане па новых абставінах. Ён па этапу адпраўляецца ў Мінск, па-ранейшаму абвінавачваецца ў прыналежнасці да антысавецкіх арганізацый і ў шпіянажы на карысць буржуазнай Польшчы. Прад'яўленыя абвінавачанні адхіліў. 19-20 лістапада 1939 года ваенны трыбунал асобай Беларускай ваеннай акругі прыгаварыў Д. Прышчэпава да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці... Спытаць толькі, якой маёмасці? Канфіскаванага струхлелага дома ў яго бацькоў — Філімона Ермалаевіча і Марыі Захараўны, з якога яны былі выкінуты на вуліцу ў ліпені 1930 года? Забраных пры арышце некалькіх кніг? Больш у яго не было чаго канфіскоўваць!

Па даных, якія мы маем, прыгавор Д. Прышчэпаву не быў прыведзены ў выкананне. Нават яго магутны арганізм, змучаны турмамі і лагерамі, не вытрымаў нечалавечых пакут. У маі 1940 года Дзмітрыя Філімонавіча не стала...

Хто пайшоў, не вяртаецца. Але жывая памяць пра іх. 11 сакавіка 1956 года Ваенная калегія Вярхоўнага Суда СССР прызнала беспадстаўнасць прад'яўленых у 1931 годзе Прышчэпаву абвінавачанняў. Сфальсіфікаванымі былі прызнаны і абвінавачанні, па якіх яго арыштавалі другі раз.

Аднаўленне Д. Прышчэпава ў радах ленінскай партыі з'яўляецца адзнакай добрых перамен, якія сёння перажывае наша грамадства.

**Мікалай КУЗНЯЦОЎ.**

**По запрашэнню мітрапаліта Мінскага і Беларускага Філарэта ў дні работы ў Маскве цэнтральнага камітэта Сусветнага савета цэркваў Беларусь наведаў яго старшыня, патрыярх Анціахійскі і ўсяго Усходу Ігнацій Чацвёрты.**

**— Адносіны царквы і дзяржавы, якія склаліся сёння ў Савецкім Саюзе, могуць служыць прыкладам для многіх краін свету,—падкрэсліў ён у час сустрэчы з намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай. Ад імя ўраду рэспублікі было адзначана вялікае значэнне дабрачыннай, міратворчай дзейнасці Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі.**

**У час свайго візіту ў Беларусь патрыярх Анціахійскі і ўсяго Усходу агледзеў экспазіцыю беларускага музея Айчыннай вайны, усклаў вянок да помніка-абеліска на плошчы Перамогі. Зрабіўшы паездку ў Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр, старшыня Сусветнага савета цэркваў прыняў удзел ва ўрачыстасцях з выпадку адкрыцця тут Мінскай духоўнай семінарыі.**

**Журналіст Дзмітрый ФІЛІМОНАЎ, які сустракаўся ў Жыровіцах з высокім госцем, расказвае:**

## ВІЗІТ ПРАЗ 400 ГАДОЎ

# ПАТРЫЯРХ УСХОДУ ГАВОРЫЦЬ ПА-РУСКУ

— Кожны, каму здарылася ў гэты дзень пабываць за манастырскай сцяной, абавязкова даведаўся, што апошнім патрыярхам, які наведаў Белую Русь, ды і то праездам, быў Іерамей II, патрыярх Канстанцінопальскі. Адбылося гэта 403 гады назад. Ігнацій Чацвёрты прыбыў у Беларусь спецыяльна для ўдзелу ў архіерэйскай хіратоніі, іншымі словамі—у благаславенні зноў створанай Полацкай епіскапскай кафедры, а таксама ў цырымоніі асвячэння Мінскай духоўнай семінарыі, якая была распушчана ў 1962 годзе па ініцыятыве М. Хрушчова, а зараз аднаўляе сваю дзейнасць. Гэта падзея адзначана мемарыяльнай таблічкай у памяшканні семінарыі, куды ў верасні гэтага года прыйдуць 40 юнакоў. Аднак трэба адзначыць, што ўжо сёння заяў пададзена значна болей.

— Цікавасць моладзі да ўсяго духоўнага і, у прыватнасці да рэлігіі, адраджаецца,—сказаў патрыярх Ігнацій Чацвёрты.—І гэта невыпадкова. Малады чалавек, які жыве ў сучасным свеце, з'яўляецца інструментам у руках палітыкаў, што прапаведуюць розныя ідэалогіі, якія супрацьпастаўляюць адны народы другім, адны групы грамадства другім. Ад імя моладзі чыняцца часам несправядлівыя справы. Улада ў нашым свеце належыць меншасці, і гэтыя нямногія ўявілі сябе багамі. Але думаючы чалавек не жадае быць цацкай у чужых руках, бо яго лёс павінен належаць толькі яму самому. Барацьба асобы з догмай прыводзіць чалавека ў храм. Той, хто веруе, не прымае фальшывых багоў,—дабавіў па-руску патрыярх.

Ігнацію Чацвёртаму на выгляд гадоў шэсцьдзесят пяць. Жорсткая, як ва ўсіх усходніх людзей, чорная з сівізной барада, мяккі позірк. Рукі ў старэчых пігментных плямах перабіраюць крыжы на грудзі. Ён ведае мноства моў, у тым ліку і рускую, аднак, як усякі палітык, лічыць за лепшае гаварыць з іншаземцамі з дапамогай перакладчыка. Гэта дазваляе старанна абдумваць кожную фразу.

— Наша вера заклікае чалавека шукаць у бліжнім брата свайго. Вера заснавана на любві. Жыццё без любві не мае сэнсу. Грамадства, дзе няма любві,—пекла.

Падобныя словы не раз выказваліся найвялікшымі гуманістамі свету, але нават ад частага паўтору яны не губляюць сэнсу.

— Сапраўдныя каштоўнасці не цьмянеюць,—лічыць народны мастак СССР Ілья Глазуноў, які наведаў манастыр па запрашэнню мітрапаліта Філарэта і патрыярха Ігнація Чацвёртага.—Жаданне пазбавіцца фальшу, якім перанасычана наша грамадства, вядзе чалавека да высокай духоўнасці.

...Ззялі золатам крыжы на царкоўных купалах. Урачыста і чыста званілі званы. І людзі, узняўшы галовы, слухалі іх.

# Actualizando los esquemas

**VADIM ZAGLADIN**, CONSEJERO DEL PRESIDENTE DEL SOVIET SUPREMO DE LA URSS, Y **JEAN FRANÇOIS-PONCET**, EX CANCILLER DE FRANCIA, INTERCAMBIAN CRITERIOS SOBRE EL FUTURO DE EUROPA EN LA MESA REDONDA ORGANIZADA EN PARIS POR LA REDACCION DE LA REVISTA FRANCESA "L'EXPRESS" Y LA AGENCIA DE PRENSA NOVOSTI. VERSION REDUCIDA. EL TEXTO INTEGRO APARECE EN "L'EXPRESS".

**"L'Express": ¿Cuál es el origen del concepto de la "casa paneuropea" y qué comprende?**

**V. Zagladin:** Ante todo, permítanme hacerles recordar que la Unión Soviética forma parte de Europa. Toda nuestra civilización se ha configurado no sólo bajo la influencia de Europa, sino colaborando con este continente. Cabe reconocer que en los últimos años hasta el inicio de la perestroika por distintas razones dedicábamos menos atención a Europa. Pero en el Pleno del CC del PCUS celebrado en abril de 1985, se sacó la conclusión de que la URSS necesita dinamizar bruscamente sus relaciones con Europa. Poco después en una entrevista concedida a la TV francesa Mijail Gorbachov promovió la idea de la "casa paneuropea". Su objetivo era demostrar que la URSS se guía por propósitos exclusivamente pacíficos con relación a Europa y que Moscú desea superar la escisión del Viejo Mundo a base de una profunda cooperación con todos los países europeos. La "casa común" significa la continuación y el desarrollo del proceso paneuropeo iniciado en Helsinki.

**J. François-Poncet:** Desearía comenzar señalando dos anhelos fundamentales de Europa Occidental. El primero es la aspiración de unidad. El segundo consiste en acabar con la escisión de Europa en dos partes, acabar con los acuerdos de Yalta y sus consecuencias, con la confrontación que desde los tiempos de la guerra fría sigue siendo causa de desmembramiento en nuestro continente.

De modo que el concepto de la "casa europea" es próximo a la segunda aspiración y acaricia nuestro oído. Al propio tiempo debo formular de inmediato varios interrogantes. "Casa europea" y "Comunidad europea" ¿son conceptos de alternativa o interrelacionados?

Por otro lado, ¿no será la idea de la "casa común" un simple lema sin contenido concreto? La "casa común" cobra sentido práctica sólo cuando significa la eliminación de algunas barreras que dividen a Europa en la actualidad. Por supuesto, me refiero a la muralla de Berlín y la frontera que atraviesa Alemania. "Casa común" significa libertad de traslado, emigración e intercambios —económicos y culturales—, sin los cuales este concepto no nos infunde confianza.

**V. Zagladin:** Mi respuesta a su interrogante es inequívoca: la "casa común" y la Comunidad europea son dos procesos, dos conceptos que deben complementarse. Existe el riesgo de que la Comunidad europea ha de desarrollarse con mayor rapidez (porque el mercado común, sin duda, le proporcionará un poderoso impulso), pero su formación abrirá también nuevas posibilidades para cooperar. Por supuesto, el mercado común en Europa Oriental aún está en su etapa inicial, mas el asunto avanza. Continúa, además, el diálogo político entre las dos Europas...

**"L'Express": Mientras tanto, nos daba la impresión de que la URSS y sus aliados hasta el presente temían el proceso de unidad eurooccidental...**

**V. Zagladin:** No, consideramos que los procesos integracionistas tienen un carácter objetivo y pueden brindar nuevas posibilidades para la cooperación.

**J. François-Poncet:** Su respuesta es importante. Porque muchos habitantes de Europa Occidental se preguntan (y es justo): ¿qué pasará si la "casa europea" se identifica con la máquina militar soviética?

**V. Zagladin:** Antes también la URSS tenía la tendencia de interpretar el Mercado Común como una máquina de guerra. Pero hoy opinamos que ningún progreso es posible sin integración económica, sin división del trabajo, sin intercambio libre de ideas y tecnologías. Lo único que nos interesa es que la integración no conduzca a una nueva forma de la carrera armamentista.

**"L'Express": Pasemos a la eliminación de las barreras...**

**V. Zagladin:** La Europa actual constituye el punto de partida para la construcción de la "casa común". Con aquellos regímenes políticos, económicos, sociales y culturales que se habían formado en los países europeos. Hoy existen dos Alemanias con distintos regímenes sociales; al término de la guerra hubiera sido posible unificarlas, pero aquella oportunidad fue desaprovechada, de modo que ahora ya es cosa de la historia. La muralla de Berlín es cierto tipo de frontera que surgió por determinadas razones históricas. Las condiciones históricas pueden cambiar, mas la frontera persiste.

**J. François-Poncet:** Por supuesto, no me refería a la desaparición de las fronteras. Pero la "frontera" de ningún modo significa "muralla" dividiendo la ciudad y produciendo más bien la sensación de presidio que de una "casa común". Por otro lado, usted habló de la opción hecha por cada país y que debe ser respetada por todos. Es cierto. Sin embargo, acabamos de ser testigos de como los electores polacos intervinieron en forma masiva contra el régimen existente... ¿Qué opción harían alg[illegible] paises del Este si tuvieran en cuen[illegible]as experiencias de electores polacos? Sería racional que la "casa común" se fundamentara en la situación existente. Mas, para que esta "casa" tenga sentido, hace falta que la democracia pluralista llegue a formar su meta.

**V. Zagla[illegible]** Me pronuncio por la opción libre. [illegible] el pueblo desea cambiar algo, que lo haga. Mas ¿por su propia cuenta!

**J. François-Poncet:** ¿Mediante elecciones libres?

**V. Zagladin:** En efecto, como también con los métodos que el mismo elija. Pero sin injerencia foránea. Porque, ante todo, nos pronunciamos por la estabilidad política en Europa. ¿Quién vería sin preocupación la inestabilidad política en la RFA, en Francia o en otro país?

**J. François-Poncet:** ¿Serán la perestroika y la glásnost un factor de inestabilidad en uno u otro campo?

**V. Zagladin:** Los elementos de inestabilidad se han manifestado antes y también pueden surgir ahora. Pero me place hacer constar que ni el gobierno francés, como tampoco ningún otro gobierno occidental, aspira a aprovecharlos. Es lo fundamental. La diversidad de ideas, regímenes, tradiciones e ideologías no debe afectar la comprensión mutua. Las experiencias nos convencen de que los valores universalmente aceptados son idénticos para todos. Asimismo, existen intereses comunes para todos los pueblos de Europa.

**J. François-Poncet:** Acepto la fórmula teórica. Pero no sei puede afirmar que, digamos, el régimen germanooriental fuera aprobado por el pueblo.

**V. Zagladin:** No olvide que la RDA es el país socialista con el nivel más alto en la economía, la tecnología y el aspecto social. Desde luego, este país afronta sus problemas, pero adelanta búsquedas y aplica esfuerzos. Lo hace a su manera, según las tradiciones alemanas. Y conseguirá éxito.

**J. François-Poncet:** Quisiera formular otra pregunta, que considero fundamental. La URSS, por supuesto, es un país europeo, pero igualmente pertenece a Asia, es también un país islámico. ¿Acaso los uzbekos, los kazajos están llamados a integrar la "casa paneuropea"? ¿Forma Vladivostok parte de ésta? El espacio "desde el Atlántico hasta los Urales" ha sido una fórmula, pero no una realidad. El mismo interrogante surge con relación a EE.UU., que geográficamente no pertenece a Europa, pero cuyos valores son iguales a los nuestros. Y hoy los apreciamos más que la geografía. ¿Quiénes vivirán entonces en esta "casa europea"?

**V. Zagladin:** Paseando por las calles de París encuentro a más mahometanos que en Moscú. Y cuando se reúne el septeto "occidental" de los países industrialmente desarrollados, nadie se asombra por que figure entre ellos también el Japón. El mundo es único. Quizás, alguna vez, hablemos de la "casa planetaria común", tal como ya la ve la ONU. Mas por ahora existe la civilización europea, que asimismo representa algo íntegro.

**J. François-Poncet:** Bueno, y cuando sea necesario calcular el presupuesto de la "casa común", ¿se tendrá que tomar en consideración sólo el ingreso nacional de la parte europea de la URSS?

**V. Zagladin:** Desde luego que no. Lo mismo que la cooperació[illegible]anco-soviética no abarca sólo hasta los [illegible]les. Tampoco buscamos excluir América de este proceso. América es hija de Europa. Está relacionada con Europa, especialmente después de la Primera Guerra Mundial, y sería irracional destruir estos lazos. Cuando hablamos de la "casa común", nos referimos a los 35 Estados, [illegible] suscribieron los acuerdos de Helsink[illegible]nentablemente, sin Albania, pero con EE.UU. y Canadá.

**J. François- Poncet:** Es algo sustancial. Y se aproxima a un entendimiento más concreto e interesante que aquel que me tocó hacer constar hasta el momento.

**"L'Express": La Alianza Noratlántica y el Tratado de Varsovia ¿forman obstáculos para la edificación de la "casa común"?**

**J. François-Poncet:** No veo como tarea de primer orden la disolución de estas alianzas. Estamos interesados en conservar la sensación de seguridad. Mas por ahora los europeos nos sentimos seguros sólo con una OTAN sólida. De igual modo, no exigimos la disolución de la OTV, por cuanto la demanda de seguridad es asimismo legítima de la parte soviética. Hoy lo más importante es que la URSS se desarrolle en la dirección acertada, que la perestroika continúe. Las alianzas militares son algo de importancia secundaria.

**V. Zagladin:** Creemos que finalmente las alianzas militares deberían ser disueltas, pero nadie está listo para hacerlo realidad en un futuro inmediato. Es posible cambiar la naturaleza de las relaciones entre las alianzas, mediante un diálogo militar y político; arribar precisamente por vía del diálogo a la elaboración de una estrategia no ofensiva tanto de la una como de la otra parte.

**"L'Express": Escuchando a ustedes, uno puede pensar que el desarme es un asunto de segundo orden...**

**J. François-Poncet:** Es posible cambiar las relaciones entre las alianzas bajando el nivel de los armamentos para lograr un equilibrio en las armas convencionales. En lo que se refiere a las armas nucleares, de por sí no constituye un factor que aminore la seguridad o infrinja el equilibrio. Por el contrario, justamente gracias a las armas nucleares vivimos 45 años en paz. ¿Significa eso que no se debe bajar el nivel de armas nucleares? En absoluto. Con la condición de que quienes están mejor armados que los demás, o sea, EE.UU. y la URSS, alcancen un notable progreso en este derrotero.

**V. Zagladin:** Estoy de acuerdo con que quienes tienen más armas deben desarmarse primeros (de lo que EE.UU. se olvida, por ejemplo, cuando se aborda el tema de su marina de guerra). No soy partidario del enfoque "todo o nada"; primero hace falta arribar a un acuerdo sobre un nivel de armamentos; luego, sobre otro, siguiendo así hasta arribar a la meta: el régimen cero.

**"L'Express": ¿Será posible construir la casa paneuropea manteniendo la presencia de tropas norteamericanas en Europa Occidental, y las soviéticas en la Oriental?**

**V. Zagladin:** El objetivo a que se debe aspirar es retirar todas las tropas extranjeras de los territorios nacionales. Pero tampoco en este campo cabe ajustarse al principio de "todo o nada". Hace falta avanzar paso a paso por el camino de las negociaciones.

**"L'Express": La ideología marxista, en la que se basan los regímenes de Estados del Este, constituye uno de los factores de la escisión de Europa. ¿Es válido ello hasta ahora?**

**V. Zagladin:** El marxismo como teoría científica no constituye un obstáculo para la cooperación dentro de Europa, ni para el intercambio de ideas. Además, el marxismo nació en la síntesis de la filosofía alemana, la ciencia histórica francesa y la economía política inglesa. No se debe juzgar sobre el marxismo por sus deformaciones.

**"L'Express": Mas precisamente la teoría de la lucha de clases opuso el sistema comunista al capitalista y justificó el enfrentamiento entre los países socialistas y otros Estados. ¿Cómo será posible armonizar esta herencia con las bases democráticas y liberales de Europa Occidental?**

**V. Zagladin:** Hoy ni se habla de fundamentar las relaciones entre los Estados en las diferencias filosóficas, sociales y de otra índole. Reanudar estas "guerras religiosas" sería una locura. La base de las relaciones entre los Estados es el Derecho Internacional.

**J. François-Poncet:** Opino que la ideología dejó de impulsar el movimiento de la sociedad soviética. A mi juicio, en Occidente ya no conciben la ideología como conquistadora. Creo que importa más el futuro de las reformas económicas en la URSS, de las cuales depende el futuro de las reformas políticas.

**V. Zagladin:** Tiene usted razón, es el problema fundamental. Pero tenemos fe en el futuro.

**J. François-Poncet:** Sea como fuera, entendemos la importancia de la perestroika y de las reformas iniciadas en la URSS por Mijail Gorbachov. Deseamos éxito a la perestroika porque será en parte también nuestro éxito. Y, finalmente, deseamos que la evolución continúe en medio de la seguridad y la unificación de Europa Occidental que ahora se está efectuando. A mi parecer, precisamente sobre esta base pueden desarrollarse las nuevas relaciones entre el Este y el Oeste.

**Redactor de la "Página en español": Demetrio OKULIK.**



*El 9 de julio en Viazinka, en la patria de Yanka Kupala, fue celebrado el 107 aniversario del nacimiento del Poeta del Pueblo con la tradicional fiesta de la poesía. Se entonaron canciones populares bielorrusas que tanto amaba el poeta, como también canciones con letra suya.*

*En la fiesta participaron los poetas M. Avramchik, S. Zakonnikau, U. Paulov, N. Zagorskaya, L. Paulikova, V. Zhukovich, V. Shnip, G. Tumash.*

*En la fiesta también se oyeron las palabras de Kupala. La actriz G. Diaguileva recitó los versos "Batkauschine", "Zabitaya skripka", "Ya ne sokal zornavoi", el artículo publicista "Tsi maem my prava virakatstsa rodnay movy". Actuó el conjunto de la canción bielorrusa "Kupalinka", el conjunto "Zharty" bajo la dirección de la actriz emérita de la RSS de Bielorrusia O. Shutova.*

Fotos: A. KOLEDA.



*ІМЁНЫ, ВЯДОМЫЯ ЎСІМ*

# ПРАЎДА ВАСІЛІЯ ШУКШЫНА

**25 ліпеня 1989 года яму споўнілася б шэсцьдзесят. Лёс адлічыў яму кароткае жыццё... Нейкае фатальнае шматвяковае наканаванне: смерць забірае лепшых маладымі. Чаму! Адказу няма.**

**Ці адчуваў вясковы хлопчык з глухога алтайскага сяла Сросткі Вася Шукшын свой лёс! Ці верыў, што ў рэшце рэшт набудзе прызнанне свайго, ды і не толькі свайго народа! Дакладная і ўпартая мэтанакіраванасць яго жыццёвага шляху дазваляе сказаць «так».**

## «ЁН ПАДОБНЫ НА СВАЮ РАДЗІМУ»

Цяпер штогод у дзень яго нараджэння ў любімых ім Сростках праходзяць Шукшынскія чытанні. З усёй краіны сюды з'язджаюцца літаратары, тэатральны і кіналюд, сябры, аднавяскоўцы, родныя... Па словах С. Залыгіна, калі б В. Шукшын быў толькі акцёрам, толькі рэжысёрам, толькі сцэнарыстам і драматургам і, нарэшце, толькі празаікам, дык і тады, у гэтым кожным асобным выпадку, мы мелі б перад сабой выдатны талент. А ён сумяшчаў у сабе ўсе гэтыя іпастасі.

Яго прынята параўноўваць з Чэхавым, з Лясковым, са Сценькам Разіным. А ён падобны толькі на самога сябе, і ні на кога больш. Ці, можа, мае рацыю Віктар Астаф'еў, які здагадаўся, што Шукшын падобны на сваю Радзіму.

А тады, калі летам 1929 года ў 18-гадовай сібірскай сялянкі Марыі Паповай і 16-гадовага Макара Шукшына нарадзіўся першынец—Васілій, хто мог меркаваць, што дзякуючы гэтай, здавалася б, звычайнай падзеі не вядомае нікому сяло ператворыцца ў асяродак культуры?..

Бацьку Васілій не памятаў. Яго па даносу арыштавалі ў 33-м годзе. Праз чвэрць стагоддзя яго пасмяротна рэабілітавалі.

Затое ўсё жыццё, да канца, побач з ім —маці. Гэта не азначае, што яна ездзіла следам за сынам. Не, яна і выязджала рэдка са сваіх Сросткаў. Але яны былі неразлучныя духоўна, менавіта маці заклала ў яго асновы духоўнасці і справядлівасці. Менавіта яна, адмысловая мастачка расказваць усялякія «небыліцы», абудзіла ў сыне прагу творчасці.

Дзяцінства Шукшына прыпала на гады вайны. Па меры сіл ён ужо памагаў маці: працаваў у калгасе, касіў, палоў, вазіў на быках ваду для паліву—усё, як належыць селяніну.

У гэтыя гады ці крыху раней выявілася ўсёпаглынаючае імкненне Шукшына-школьніка да чытання. Чытаў усё без разбору. Чытаў паўсюль, у любую вольную хвіліну, па начах... Невядома, чым бы ўсё скончылася, але знайшлася светлая асоба—эвакуіраваная ленінградская настаўніца,—склала для яго спіс патрэбных кніг для чытання. Гэта ж настаўніца была першай, хто параіў яму паспрабаваць сябе ў літаратуры...

## ПЕРШЫЯ УНІВЕРСІТЭТЫ

У 46-м ён паехаў з дому. Знешнія прычыны: проста пошук кавалка хлеба. А тайныя? Ёсць усе падставы меркаваць, што рухала ім, магчыма, не зусім асэнсаванае пачуццё ўласнай незвычайнасці, прадчуванне іншага лёсу.

Аднак да таго давялося папрацаваць і рознарабочым, і мулярам, і слесарам-такелажнікам. Потым—служба на флоце. Дэмабілізавалі да тэрміну па хваробе—язва.

Дадому вярнуўся худы, чорны. Маці адпаіла зёлкамі. Але ўседзець дома ён ужо не змог. І хоць давялося яму яшчэ заканчваць экстэрнам школу, думкі яго ўжо блукалі вакол маскоўскіх інстытутаў.

Маці не магла не бачыць пакут сына, і нялёгкае рашэнне ўзяла на сябе... Прадалі карову Райку, прыбралі Васілія ў дзедаўскія галіфэ і гімнасцёрку, і ён паехаў «заваёўваць» Маскву. Было яму ўжо 25 гадоў.

## ПЕРШЫЯ ПЕРАМОГІ

Не, не просценькі сялянскі хлопец аб'явіўся ў сталіцы ў 54-м годзе, а разумны, тонкі і кплівы чалавек, які ведаў сабе цану і толькі падыгрываў ганарлівым інтэлектуалам, упісваючыся ў вобраз некультурнай дзеравеншчыны.

У інстытуце кінематаграфіі, куды ён вырашыў паступаць, яго чакалі цяжкія выпрабаванні і неабходнасць даказаць права на вучобу тут. На прыняцці Шукшына настаяў Міхаіл Ром. Пасля вострых спрэчак патрыярх савецкага кіно сказаў кароткую, але ёмістую фразу: «Ён незалежны—гэта рыса таленту».

Ужо ў студэнцкія гады ён пачаў працу над раманам «Любавіны» (гісторыяй гібелі багатай сялянскай сям'і, якая не пажадала прыняць законы новай вёскі), зняўся ў Марлена Хуцыева ў фільме «Два Фёдары», апублікаваў сваё першае апавяданне «Двое на калёсах». Апавяданне эпігонскае, у ім цяжка адгадаць будучага віртуоза гэтага жанру, але яно —першае!

А ў дыпломнай рабоце—кароткаметражным фільме «З Лябяжага паведамляюць» (эпапея ўборкі на Алтаі)—ён упершыню «ўзурпіраваў уладу», г. зн. выступіў «адзін у трох асобах»: сам напісаў сцэнарый, сам паставіў, сам зняўся ў галоўнай ролі.

## СТУПЕНІ МАЙСТЭРСТВА

Вядомасць Шукшын набывае ўжо ў першыя гады пасля інстытута кінематаграфіі, але ў асноўным як акцёр кіно. Ролі выконвае розныя, прахадныя і значныя, але Шукшын-рэжысёр з'явіўся толькі ў 1964 годзе.

Затое адно за адным друкуюцца апавяданні, многія з якіх цяпер складаюць «залаты фонд» яго творчасці. Працягвае работу над «Любавінымі». Выпускае першую, а затым наступныя кнігі апавяданняў. У разгары работа над раманам аб Сцяпане Разіне.

Пра што творчасць Шукшына? Пра вёску? Пра яе людзей? Шукшынскі герой—не праславуты «маленькі чалавек», ці то селянін, шафёр, трактарыст, ці то настаўнік, або «чудзік», а чалавечая індывідуальнасці [illegible]южэты апавяданняў—быццам бы [illegible]бязныя будзённыя гісторыі, але ў іх сутнасць жыцця, жыцця Расіі. Адна дэталь, рэпліка, жэст—а перад чытачом гатовы характар, тыпаж.

Аб першай поўнаметражнай рэжысерскай рабоце Шукшына помняць і праз чвэрць стаго[illegible]дзя. А тады, у 64-м фільм «Жыве так[illegible]пец» атрымаў «Залатога льва» на XV[illegible] міжнародным кінафестывалі ў Венецыі. У стужках «Ваш сын і брат», «Дзіўныя людзі» і ў больш позняй «Печкі-лавачкі» ў аснову сцэнарыяў Шукшын браў свае творы, ужо безагаворачна любімыя чытачом.

## «МАРАЛЬНАСЦЬ — ЁСЦЬ ПРАЎДА»

Так называецца адна з публіцыстычных работ Шукшына. Але гэта не проста назва артыкула, гэта яго крэда на ўсе часы. І калі пасля выхаду галоўнай яго кінаработы—«Каліны чырвонай»—некаторыя крытыкі сталі дакараць аўтара, што героем фільма ён выбраў злодзея і паказаў яго як моцную асобу, горды і незалежны характар, Шукшын з поўнай перакананасцю мог адказаць: маральнасць—у праўдзе.

Праўдзівыя, шчырыя і дакладныя ўсе без выключэння героі Шукшына—і экранныя, і літаратурныя, станоўчыя і адмоўныя, і нават казачныя персанажы з яго апошняга закончанага твора—«Да трэціх пеўняў»...

Ці прадчуваў Шукшын раннюю смерць? Не. На шчасце, не. Ён быў перапоўнены новымі задумамі, планаваў экранізаваць галоўны свой літаратурны твор—раман аб Сцяпане Разіне «Я прыйшоў даць вам волю» і сыграць трагедыйны вобраз галоўнага героя. А потым марыў пакінуць шумную і надакучлівую Маскву і большую частку часу праводзіць у Сростках, цалкам аддаўшыся літаратурнай працы. Сваё апошняе прыстанішча—каюту парахода, дзе жыла здымачная група С. Бандарчука, які здымаў фільм «Яны змагаліся за Радзіму», і дзе Шукшын выконваў ролю радавога салдата, ён называў «Маё Болдзіна». Сапраўды, у гэтай каюце пісалася лёгка і напісана многа.

...Яго знайшлі раніцай у сваёй каюце. Ён ляжаў, трымаючы руку на сэрцы. Медыцынскае заключэнне—вострая сардэчная недастатковасць. Якой недарэчнай часам можа быць клінічная тэрміналогія. Пра якую сардэчную недастатковасць можа ісці гаворка, калі гутарка гэта—пра Шукшына! За год да смерці ён напісаў: «Калі буду паміраць, калі буду ў памяці, у апошні момант паспею падумаць пра маці, пра дзяцей і пра Радзіму, якая жыве ўва мне. Даражэй у мяне нічога няма».

**Валерыя ПРУТ.**







**У Гродне створана і актыўна дзейнічае асветніцкае Таварыства сяброў польскай культуры імя Адама Міцкевіча.**

**— Прычынай для зрэння таварыства, — расказвае адзін з яго заснавальнікаў прарэктар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Сяргей Габрусевіч, — паслужылі вынікі сацыялагічнага даследавання. Яно было праведзена сярод насельніцтва вобласці, каб высветліць, якія шляхі трэба абраць для развіцця адносін у галіне культуры. Даследаванне паказала, што многія людзі польскай нацыянальнасці (а ў Гродзенскай вобласці ёсць раёны, дзе яны складаюць 80 працэнтаў насельніцтва) жадаюць, каб іх дзеці вывучалі польскую мову ў школах, ведалі літаратуру і мастацтва Польшчы. Новае фарміраванне стала калектыўным членам Таварыства савецка-польскай дружбы. За даволі кароткі тэрмін па яго ініцыятыве арганізавана 30 класаў і гурткоў у школах, дзе вывучаюць польскую мову, вырашана стварыць ва універсітэце польскамоўную кафедру. Вучоныя Гродна паглыбляюць навуковыя кантакты з калектывам інстытута славяназнаўства Варшаўскай акадэміі грамадскіх навук, Музеем літаратуры імя Адама Міцкевіча. Заключаны прамыя дагаворы аб супрацоўніцтве з вышэйшай педагагічнай школай у Кракаве.**

**У Гродна часта прыязджаюць цяпер многія тэатральныя калектывы з Польшчы са сваімі новымі спектаклямі. Так нядаўна цёпла прымалі жыхары абласнога цэнтра спектаклі Беластоцкага лялечнага тэатра.**

**Усе гэтыя мерапрыемствы даюць шырокую перспектыву для культурнага супрацоўніцтва прыгранічных раёнаў нашай рэспублікі і ПНР.**

**НА ЗДЫМКАХ: на пасяджэнні Таварыства сяброў польскай культуры ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце; дырэктар Цэнтра польскай культуры, створанага ў Маскве, папулярны польскі акцёр Station Станіслаў МІКУЛЬСКІ (справа) і народны артыст СССР Расціслаў ЯНКОЎСКІ сустрэліся ў Гродне як паўпрэды дзвюх брацкіх культур; выпускніца Гродзенскага універсітэта Аліна ШЫКУЛЬ будзе займацца ў аспірантуры адной з вышэйшых навучальных устаноў ПНР.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

# ПАДПІСАНЫ ДАГАВОР

У рэспубліканскім Доме кінематаграфістаў адбылося падпісанне дагавора аб міжнацыянальным культурным супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры БССР і РСФСР на 1989—1990 гады. Асноўнымі мэтамі яго з'ўляецца прапаганда лепшых дасягненняў нацыянальных культур, выхаванне сродкамі мастацтва народаў нашых рэспублік у духу дружбы і ўзаемнай павагі. У плане сумесных культурных мерапрыемстваў на гэтыя гады — правядзенне Свята славянскай пісьменнасці з удзелам дзеячаў літаратуры, культуры і мастацтва дзвюх рэспублік у Полацку і Смаленску, адкрыццё ў Маскве выстаўкі, прысвечанай жыццю і творчасці Я. Купалы, і ў Мінску кніжнай выстаўкі са збору Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Салтыкова-Шчадрына, Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэкі.

— У гісторыі нашых народаў такі дагавор мы падпісваем упершыню, — падкрэсліў у сваім выступленні міністр культуры БССР Я. Вайтовіч. — Гэта яшчэ раз сведчыць аб трывалых сувязях нашых народаў, народаў-братоў і суседзяў.

Дагавор падпісалі міністр культуры РСФСР Ю. Мяленцьеў і міністр культуры БССР Я. Вайтовіч. На ўрачыстай цырымоніі прысутнічалі старшыня праўлення СП БССР М. Танк, сакратары СП БССР А. Жук і В. Зуёнак, народны мастак СССР М. Савіцкі, першы сакратар Саюза мастакоў БССР С. Гарбунова, намеснік старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР У. Дарохін, старшыня Саюза мастакоў РСФСР В. Сідараў, намеснік старшыні праўлення Саюза кампазітараў РСФСР К. Волкаў.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# АБ ПАЛЕССІ І ПАЛЕШУКАХ

Дзе знаходзіцца Палессе? Хто такія палешукі? Несумненна, большасць чытачоў палічыць гэтыя пытанні трохі дзіўнымі. Але давайце лепш не будзем спяшацца. Бо тое, што здаецца такім звычайным і зразумелым у наш час, не заўсёды бывае такім у гістарычным аспекце.

Уласнае імя Палессе ўпершыню было адзначана ў Іпацьеўскім летапісу пад 1274 годам і адносілася да тэрыторыі ў наваколлі Капыля. У далейшым розныя пісьмовыя крыніцы давалі супярэчлівыя сведчанні, згодна з якімі Палессе размяшчалася ў шырокім рэгіёне — ад Падляшша і Мазавецкіх зямель Польшчы да Валыні і Кіеўшчыны. Іншымі словамі, уважлівы разгляд крыніц XIII—XVII стагоддзяў і навуковых прац XVI—XIX стагоддзяў пакідаў без адказу пытанне аб тым, дзе знаходзілася першапачатковае Палессе.

Тлумачыцца гэта, на наш погляд, не лінгвістычнымі і не гістарычнымі, а геаграфічнымі прычынамі. Палессе — гэта не толькі і не столькі пэўная гістарычная вобласць, колькі тып ландшафту, які ўяўляе сабой забалочаныя ў выніку залішняга атмасфернага ўвільгатнення пры малой дрэнажаванасці паверхні, пакрытыя лесам нізіны. Палескі тып ландшафту характэрны для Палескай нізіны (басейны рэк Прыпяці, Дняпра, Дзясны, Беларускае Палессе, Украінскае Палессе, Бранска-Жыздрынскае Палессе), Мяшчэрскай нізіны (паміж рэкамі Акой і Клязьмай), для нізіны ў басейне ракі Вятлугі (Марыйская АССР), а таксама для нізінных усходніх раёнаў Польшчы.

Менавіта таму ўжо шмат стагоддзяў назад слова «палессе» выкарыстоўвалася ў мове носьбітаў славянскіх гаворак не толькі як агульнае, але, па ўсёй верагоднасці, і як уласнае найменне розных тэрыторый, багатых на балоты і лясы. Вось чаму нельга дакладна вызначыць, дзе пачыналася Палессе. Напрыклад, сёння жыхары Гомельшчыны—тураўцы — разумеюць пад Палессем толькі тую мясцовасць, якая размяшчаецца на поўдзень ад Турава і ракі Сцвігі. Сваё разуменне Палесся ёсць і на іншых з адзначаных вышэй тэрыторыях.

Можна было б думаць, што ў Беларускім Палессі для абазначэння яго жыхароў таксама з вельмі даўніх часоў выкарыстоўвалася і этнічнае найменне палешукі. Але такая думка, як гэта не дзіўна, аказваецца памылковай.

На пачатку XX стагоддзя найменне палешукі ўжывалася для абазначэння жыхароў толькі паўднёвых палескіх раёнаў. У заходняй частцы Беларускага Палесся граніца пражывання насельніцтва, якое называлася палешукамі, вызначаецца па лініі Лунінец — водападзел рэк Бобрыка і Цны — Целяханы — Бяроза — Пружаны. На поўнач жылі «літвіны». Толькі не трэба думаць, што гэта былі сапраўдныя літвіны. Так называлі беларусаў іх паўднёвыя суседзі — палешукі. Вытокі гэтага абазначэння ўзыходзілі да тых часоў, калі беларускія землі, у тым ліку і палескія раёны, увайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага (з сярэдзіны XIV стагоддзя). Усё насельніцтва гэтай дзяржавы, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, лічылася «літвінамі». Але вядома, што найменне «літвіны» ў адносінах да беларусаў пачало шырока выкарыстоўвацца з XVII стагоддзя, а на землях Палесся — з XVI стагоддзя ўкраінцамі і рускімі, гэта знач[illegible] паўднёвымі і ўсходнімі су[illegible]зямі беларусаў. А калі гэта так, калі «літвінамі» называлі беларускае насельніцтва таксама і палешукі, дык паўстае заканамернае пытанне: кім былі па паходжанню, па эт[illegible]й прыналежнасці гэтыя ап[illegible]нія?

Адказ будзе трохі нечаканым, бо палешукамі першапачаткова называлася пераважна ўкраінамоўнае насельніцтва, а больш дакладна — патомкі старажытнарускіх плямён драўлян і бужан, якія прасоўваліся на поўнач яшчэ на заранку Старажытнарускай дзяржавы, але найбольш інтэнсіўна — у XVI стагоддзі. Найменне «палешукі» (літаральна — «жыхары лесу», «лесавікі») прыйшло на змену больш старому этнічнаму найменню «драўляне, «дзераўляне» (у перакладзе на сучасную мову — таксама «жыхары лесу», «лесавікі»). Палешукоў у XIX стагоддзі, а магчыма і раней, называлі таксама бужанамі і пінчукамі. Этнічная

(Заканчэнне на 8-й стар.).



Звыш двухсот лепшых гарманістаў з усіх абласцей Беларусі сабрала ў Віцебску першае рэспубліканскае свята «Іграй, гармонь»!

Незаслужана адсунутая на многія гады электраінструментамі гармонь зноў вяртаецца да людзей.

Выступалі салісты, гучалі ансамблі. Букет мелодый запоўніў вуліцы і плошчы старажытнага горада, парушыў цішыню паркаў.

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі свята выступаюць перад віцябчанамі.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# ПАРТРЭТ НА ФОНЕ АРГАНА

НЯГЛЕДЗЯЧЫ на гарачы летні дзень, у будынку былога мінскага касцёла Святога Роха на Залатой горцы—цяпер тут камерная канцэртная зала Белдзяржфілармоніі—прахалода. Праз вітражы лілося мяккае жоўта-чырвона-блакітнае святло. А ў глыбіні касцёла ўзвышаўся кароль усіх інструментаў—арган.

Я зайшла і міжволі стаіла дыханне: настолькі рэзкім быў пераход ад гулу машын і шуму натоўпу на праспекце сталіцы да гэтай дзівоснай цішыні і ўрачыстасці.

Са службовага пакойчыка выйшаў малады чалавек, вітаючыся, схіліў у паўпаклоне галаву.

— Будзем пачынаць?— паказаў у бок аргана.—Прашу бліжэй.

Музыкант сеў за інструмент, раскрыў ноты. А ў мяне зноў заняло дыханне і разбегліся вочы: упершыню так зблізку ўбачыла ўсю гэту складаную канструкцыю з мноствам труб, кнопак, рычагоў, педалей, лямпачак.

З глыбіні аргана падняўся гук, узнёсся пад столь, разляцеўся. Да яго далучыўся наступны. І тады мелодыя запоўніла ўсё навокал. Я слухала і ледзь паспявала сачыць за рухамі арганіста: працавалі рукі, ногі, усё цела, кожная клетачка... На твары выступілі кропелькі поту. Грандыёзнае відовішча — арганіст за работай.

Ён, здаецца, нават забыўся, што побач журналіст. Нешта крэсліць у нотах, застывае на імгненне, заносіцца думкамі некуды далёка-далёка...

Аматары арганнай музыкі памятаюць першы канцэрт Канстанціна Шарава ў сталіцы. Нікому невядомы 28-гадовы юнак выйшаў тады на сцэну замест маэстра Фісейскага, які захварэў. І бліскуча сыграў усю праграму. «Хто такі? Адкуль узяўся?»—пыталіся ўзрушаныя гледачы. І сапраўды, з'яўленне маладога арганіста ў Мінску для многіх было нечаканасцю.

Але Косця Шараў не з неба зваліўся. Ён тутэйшы. Яго добра ведалі работнікі філармоніі. Асабліва «ўеўся ў косці» ён дзяжурнаму і прыбіральшчыцы. Калі ўсе нармальныя людзі пасля работы ішлі дамоў, гэты апантаны юнак уладкоўваўся ля аргана. Нярэдка бывала, што і цэлую ноч іграў.

— А што мне было рабіць тады? — гаворыць музыкант.—Пасля заканчэння кансерваторыі па класу аргана ў Рызе я вярнуўся ў Мінск. У штатным раскладзе філармоніі месца арганіста занятае. Я вымушаны быў уладкавацца ў канцэртна-лекцыйнае бюро, выступаў як піяніст, часта ездзіў у камандзіроўкі.

Недзе каля паўтара года Канстанцін Шараў іграў на аргане выключна па начах, так сказаць, «падпольна». За гэты час і падрыхтаваў праграму, з якой (дапамог выпадак) выступіў публічна ў красавіку 1982 года. На сённяшні дзень гэты малады чалавек па сутнасці з'яўляецца адзіным прафесійным арганістам-выканаўцам у Беларусі. Ім падрыхтавана і выконваецца некалькі цыклаў канцэртаў: «Бах, яго сучаснікі і паслядоўнікі», «Усе арганныя сачыненні Баха», «Анталогія арганнай творчасці Дзітрыха Букстэхудзе», «Партрэты кампазітараў»... Дзякуючы гэтаму музыканту, многія яго сучаснікі як зусім юныя, так і больш паважнага ўзросту, калі і не спасціглі веліч аргана ў поўнай меры, то далучыліся да арганнай музыкі, палюбілі яе.

Прынамсі, сам Канстанцін Шараў захапіўся арганнай музыкай яшчэ ў дзіцячыя гады. Часта хадзіў на канцэрты вядомага тады Алега Янчанкі. Пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі па класу фартэпіяна ён вырашыў прадоўжыць вучобу ў Рызе, дзе рыхтавалі музыкантаў-арганістаў.

— Мне пашчасціла стаць вучнем старэйшага арганіста, народнага артыста Латвійскай ССР Мікалая Вандзіньша. У 87 гадоў ён яшчэ іграў у Домскім саборы,—прыгадвае гады вучнёўства К. Шараў.—Я тады многа паездзіў па Латвіі, паглядзеў і паслухаў сотні інструментаў, на некаторых іграў сам. Толькі ў Рызе ў каталіцкіх і лютэранскіх храмах дзейнічае каля 30 арганаў. Там існуюць даўнія традыцыі, свая арганная школа.

Вярнуўшыся ў Беларусь, малады чалавек імкнецца адшука[illegible]т сляды арганнай культ[illegible]. Ён робіць некалькі падарожжаў, у час якіх наведвае старажытныя беларускія гарады, што былі ў свой час асяродкамі нацыянальнай культуры.

— Бадай што, безвыніковымі [illegible] мае пошукі,—кажа К. Шараў.—Хіба што толькі ў Нясвіжы знайшоў такія-сякія сляды. Відаць, варта яшчэ пашукаць. Але несумненна, што арганная музыка гучала ў палацах нясвіжскіх князёў, былі і свае адметныя музыканты. Вось толькі мы пра іх, на жаль, нічога не ведаем.

Арганны рэнесанс наступіў у нашай краіне, як мы ведаем, не так даўно. У 1957 годзе дэлегацыя савецкіх спецыялістаў ажыццявіла першую паездку ў Чэхаславакію і ГДР для знаёмства са станам сучаснай арганнай тэхнікі. І неўзабаве пры Міністэрстве культуры СССР прыступіў да работы Савет па арганабудаўніцтву, якому наканавана было адыграць выключна канструктыўную ролю ў стварэнні савецкай «арганнай дзяржавы». Была выпрацавана мадэль сувязей з вытворцамі арганаў у Еўропе (з чэшскай фірмай «Рыгер-Клос» і нямецкімі фірмамі «Аляксандр Шуке», «В. Заўэр»), эканамічна ўстаноўка новых арганаў у нашай краіне была падключана да планаў СЭУ. У наступныя дзесяцігоддзі была праведзена гіганцкая работа: устаноўлены новыя і рэстаўрыраваны старыя інструменты ў дзесятках гарадоў краіны, у тым ліку і ў Мінску, загучаў арган і ў старажытным Сафійскім саборы ў Полацку.

— Як гэта ні парадаксальна, але менавіта ў гады, названыя цяпер перыядам застою, пачаўся ў нас арганны бум,—разважае К. Шараў.—Каля 50 гарадоў налічвае сёння «арганная дзяржава». Але, як мне здаецца, у нечым «сляпая» цікавасць публікі да аргана пачынае затухаць. Што і не дзіўна. Бо ў нас у краіне, акрамя Прыбалтыкі і Масквы, няма сапраўднай арганнай школы. Мала кампазітараў, якія пішуць для аргана. Каб напісаць такі твор, аўтар, перш за ўсё, павінен добра ведаць гэты інструмент, нават іграць на ім. Адпаведна, не багаты рэпертуар. Што ж выконваць акрамя старадаўняй і класічнай еўрапейскай музыкі новым пакаленням арганістаў?

Я слухала, з якім болем гаворыць пра арганныя беды наш адзіны беларускі маэстра Канстанцін Шараў. І сапраўды, у яго былі падставы для маральнай незадаволенасці і расчаравання. Летась, напрыклад, яму прыслаў запрашэнне на трохтыднёвыя курсы па павышэнню кваліфікацыі арганістаў французскі феномен Жан Гію. Пра падобнае запрашэнне можна было толькі марыць. На такія прэстыжныя курсы не запрашаўся яшчэ ні адзін савецкі выканаўца. Умовы былі больш чым прымальныя. Аднак паездка не адбылася. Хто персанальна ў гэтым вінаваты? У рэспубліцы не знайшлі 500 швейцарскіх франкаў. Прычына аб'ектыўная? Можа быць. Але неяк сумна становіцца ад усведамлення такога факта.

Усе гэтыя гады беларускі арганіст вядзе інтэнсіўную гастрольную дзейнасць. Ён іграе практычна на ўсіх арганах: на зусім маленькіх, камерных, і на вялізных канцэртных. Неаднойчы выступаў у полацкім Сафійскім саборы. А зусім нядаўна ўдзельнічаў у дабрачынным канцэрце, які адбыўся ў дзеючым касцёле Пінска.

— Кожны арган трэба адчуваць, у кожнага свой голас, свая душа,—чую я нечакана пяшчотныя словы ад увогуле стрыманага на пачуцці музыканта.—Ён можа гучаць як сольна, так і ў спалучэнні з іншымі інструментамі. Савецкі кампазітар Мікаэл Тарывердзіеў напісаў два творы для аргана сола буйной формы—канцэрт «Касандра» і сімфонію «Чарнобыль». Апошняя была выканана Гары Гродбергам упершыню 1 студзеня 1988 года ў Маскве, а затым з велізарным поспехам у Заходнім Берліне, Ленінградзе, Чэлябінску, Сочы. Абодва гэтыя творы, пазначаныя вялікім трагедыйным пафасам, нясуць у сабе каштоўныя элементы сучаснага, можна сказаць, «касмічнага» мыслення.

Аркадзь Астрамецкі спрабаваў спалучыць цымбалы і арган. Але ў гэтым выпадку арган павінен быць не канцэртны, які «перакрые» сваім гучаннем любы інструмент, а маленькі арганчык. Я спрабаваў зрабіць праграму са скрыпачом Бадзьяравым, але нам не далі давесці справу да канца. Перакананы, што вельмі арыгінальна будзе гучаць маленькі арганчык з беларускімі народнымі інструментамі.

Розныя неспрыяльныя абставіны не загубілі ў маім субяседніку, як я зразумела, аптымізму і апантанасці, а таксама веры ў тое, што ў аргана вялікая будучыня. Як вельмі прыемную навіну паведаміў ён, што ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі зараз вырашаецца пытанне аб арганізацыі факультатыўнага арганнага класа.

Паварочваюцца тварам да аргана беларускія кампазітары. Па некаторых прагнозах, перабудова акажа спрыяльны ўплыў на арганную культуру ў рэспубліцы. Кароль усіх інструментаў чакае свайго зорнага часу.

Таццяна АНТОНАВА.

ФОТАВЫСТАЎКА Ў МАСТАЦКІМ МУЗЕІ

# ТАЛЕНТ І ЯГО ПРЫЗНАННЕ

Персанальная выстаўка фотакарэспандэнта Юрыя Іванова, на якой было прадстаўлена 300 здымкаў, называлася «Пяць секунд з жыцця». Так як зусім невыпадкова назваў аўтар. Фотавытрымка, працэс фатаграфавання доўжыцца дзесятыя долі секунды. Сума трохсот вытрымак—гэта і ёсць пяць секунд. Фотавыстаўка экспанавалася ў Мастацкім музеі БССР. Такое было, бадай, упершыню. І зноў жа невыпадкова. Здымкі, прадстаўленыя на суд гледача, зроблены майстрам, які ўмее знайсці, асэнсаваць і стварыць вобраз. Паэт Уладзімір Някляеў, быццам прадстаўляючы Ю. Іванова, піша, што «ў яго ёсць талент, прызнанне, вопыт, персанальныя выстаўкі, публікацыі ў вядучых айчынных і зарубежных выданнях».

Многа гадоў назад у камандзіроўцы ў горадзе беларускіх шахцёраў Салігорску я мела магчымасць назіраць, як працуе Ю. Іваноў. Помню, што ўразіла мяне тады яго надзвычайная працаздольнасць і скрупулёзнасць, з якімі ён дабіваўся патрэбнага яму кадра, толькі яму аднаму вядомага выніку.

Для стварэння альбома «Адзін дзень Савецкага Саюза» амерыканская фірма «Колінз» запрасіла сто фотамайстроў, сорак з іх—з нашай краіны. Сярод гэтых сарака быў і Юрый Іваноў. Лепшыя здымкі, зробленыя ў той дзень, 15 мая 1987 года, павінны былі ўвайсці ў альбом. Фотакарэспандэнт з Мінска зрабіў у гэты дзень 1692 кадры, з якіх у альбом увайшло тры.

На выстаўцы—жыццё Беларускай рэспублікі, прынамсі, за апошнія 25 гадоў. Многія кадры сталі ўжо гісторыяй, як, напрыклад, тыя, дзе мы зноў сустракаемся з Пятром Машэравым, выдатным партыйным дзеячам, любімым нашым народам.

Многія творы, што экспануюцца на выстаўцы, друкаваліся і на старонках «Голасу Радзімы». Здаецца, зусім нядаўна святочны нумар адкрываўся здымкам: «Брэст. 9 мая. Ідуць абаронцы горада». Або партрэт старой у белай хусцінцы. «Падобна, уся біяграфія Беларусі адбілася на твары гэтай жанчыны»,—падпісаў здымак аўтар.

І яшчэ адзін подпіс—«Лёс». Ён пад здымкам, які змешчаны ў нашым сённяшнім нумары. Усё разам—здымак і подпіс—абуджае думку, нараджае асацыяцыі. Узнікае вобраз.

Бясспрэчна, нас прымушае захапляцца, супе-



ражываць, зведваць гнеў ці замілаванасць перш за ўсё схопленае і данесенае да нас імгненне жыцця, надзвычайная прыгажосць кветкі, удумлівы, адухоўлены твар паэта ці кампазітара. А ў подпісах, як і ў здымках, выказваюцца адносіны майстра да тых, каго ён фатаграфуе. «Даярачкі Мсціслаўшчыны»—гэта в... [illegible] кабеты ў рабочай вопратцы, у сваім з... [illegible] ым прыродным асяроддзі. Але як ласкава—даярачкі. Любоў, неабыякавыя адносіны да тых і да таго, што здымае, дапамагаюць Юрыю Іванову прафесійна і па-мастацку дасканала рабіць сваю справу. Яго работы прываблівалі гледачоў, якія падоўгу затрымліваліся перад імі, наведвальнікі пісалі ў кнігу водгуччырыя словы ўдзячнасці і захаплення.

Д. ЧАРКАСАВА.

# АБ ПАЛЕССІ І ПАЛЕШУКАХ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

граніца, якая раздзяляла палешукоў і літвінаў, ці ўкраінцаў і беларусаў, праходзіла ад Белавежскай пушчы на ўсход да горада Пружаны і ракі Ясельды. Далей яна накіроўвалася на поўдзень ад горада Бярозы да ракі Бераставіцы, па ёй да возера Чорнае і ад гэтага возера да ракі Шчары. Таму ад гэтай ракі па тэрыторыі былога Пінскага павета граніца ішла да ракі Бобрык і па ёй спускалася ў паўднёва-ўсходнім кірунку да горада Лунінца, а ад гэтага горада — да ракі Прыпяць. Па Прыпяці граніца ішла па тэрыторыях былых Мазырскага і Рэчыцкага паветаў Мінскай губерні і дасягала Дняпра. Такім чынам, палешукі займалі большую частку сучаснай Брэсцкай вобласці (акрамя самых паўночных яе раёнаў) і тую частку сучаснай Гомельскай вобласці, якая размешчана на поўдзень ад Прыпяці. Асобныя пасяленні палешукоў-маларосаў існавалі на поўнач ад Прыпяці. Такім пасяленнем, напрыклад, была вёска Людзяневічы (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці).

Як называліся жыхары Беларускага Палесся да XVI стагоддзя, калі з'явілася этнічнае найменне «палешукі» і пачало распаўсюджвацца штучнае — «літвіны»? У цэнтральнай і ўсходніх частках Палесся для абазначэння тутэйшага насельніцтва да канца XVI — пачатку XVII стагоддзяў выкарыстоўвалася агульная назва русіны, а таксама шэраг мясцовых найменняў — тураўцы, мазыране, рэчычане, піняне, лучане — у залежнасці ад таго, побач з якім населеным пунктам пражывала тая ці іншая група палескіх жыхароў.

У заходніх раёнах Беларускага Палесся ў XIV—XVI стагоддзях дакументы фіксуюць этнічнае найменне «палясяне», ці «падлясяне», якое ў той час не было вядома на астатніх землях прыпяцкага Палесся.

Берасцейскі, Камянецкі, Кобрынскі і Пружанскі паветы разам з паветамі Бельскім і Мельніцкім (сучасная тэрыторыя Польшчы) складалі з XIV стагоддзя так званае Падляшша (Падляссе). Насельніцтва гэтай тэрыторыі і называлася падлясянамі (палясянамі).

Да XIII стагоддзя землі Падляшша былі пустэльнымі, неабжытымі. Сюды, у недаступныя лясы і балоты, у сярэдзіне XIII стагоддзя перасяліліся рэшткі яцвяжскіх плямёнаў, ці «палясян», як называлі іх палякі. Асноўная тэрыторыя яцвягаў-палясян знаходзілася на поўнач ад Падляшша. Але ў той час гэты старажытны народ павінен быў ратавацца ад наступаўшых крыжаносцаў і безупынных набегаў польскіх дружын. Перасяленне таксама не выратавала іх. Праз некаторы час яны былі асіміляваны перасяленцамі-каланістамі — мазўшанамі, дрыгавічамі і валынянамі. Яцвягі зніклі, але перадалі сваё імя «палясяне» таму насельніцтву, якое фарміравалася тут на стракатай этнічнай аснове. Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя геаграфічныя апісанні заходніх палескіх раёнаў указвалі падлясян рускага (усходнеславянскага) і падлясян польскага паходжання.

І ў сувязі з гэтым ужо зусім не дзіўным і не такім амаль паўфантастычным з'яўляецца наступны факт. У 1978 годзе на хутары ля пасёлка Новы Двор Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці на гарышчы хаты старога дзеда-палешука быў знойдзены незвычайны рукапіс, прыплецены да старадаўняй кнігі, выдадзенай у XVIII стагоддзі ў Варшаве. «Яцвяжскі слоўнік» — так назвалі унікальную знаходку вучоныя-мовазнаўцы. Рукапіс быў складзены нейкім цікаўным чалавекам, якому была зусім не абыякава знікаючая мова палясян-яцвягаў, на якой размаўлялі, відаць, яе апошнія носьбіты.

Вось так, часам даволі нечакана, лёс даносіць да нас матэрыяльныя сведчанні былога. І яны, гэтыя сведчанні, разам з гісторыяй такіх звычайных, на першы погляд, этнічных назваў расказваюць аб далёкіх падзеях на старажытнай палескай зямлі. Вывучэнне гэтых назваў і даўняй гісторыі іх носьбітаў дапамагае зразумець: няма ніводнага народа, які б шукаў свой гістарычны шлях без сувязі з іншымі народамі. У калейдаскопе стагоддзяў адбываюцца пастаянныя кантакты, узаемадзеянне і нават змешванне этнічных груп. Менавіта таму, нават, у здавалася б, адгароджаным у недалёкім мінулым ад усяго свету балотамі і лясамі Беларускім Палессі, таксама фарміраваліся глыбокія карані роднасці народаў Усходняй Еўропы.

А. РОГАЛЕЎ,
кандыдат філалагічных навук.

## ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ «ГОЛАС РАДЗІМЫ»

**Паважаныя чытачы! Калі і ў далейшым вы жадаеце рэгулярна атрымліваць інфармацыю пра жыццё Савецкай Беларусі, важныя палітычныя і культурныя падзеі ў рэспубліцы, пра развіццё яе эканомікі, культуры, надышоў час аформіць падпіску на «Голас Радзімы» на 1990 год.**

**Суайчыннікі, хто жыве ў капіталістычных краінах і краінах, што сталі на шлях развіцця, могуць зрабіць гэта праз магазіны і фірмы, якія супрацоўнічаюць з «Міжнароднай кнігай» і Цэнтральным агенцтвам зарубежных выданняў.**

**У сацыялістычных краінах афарміць падпіску можна ў пунктах падпіскі ці ў паштовых аддзяленнях па месцу жыхарства.**

**У Савецкім Саюзе выпісаць «Голас Радзімы» можна ў любым аддзяленні «Саюздруку».**

**Наш падпісны індэкс у рэспубліканскім і ўсесаюзным каталогах падпіскі — 63854, цана на год (для Савецкага Саюза) — 2 рублі.**

## РЫХТУЕЦЦА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

У Савецкім Саюзе рыхтуецца да публікацыі і ў 1990 годзе выйдзе ў свет двухтомная «Адрасная кніга калекцыянераў СССР». Гэта 100 тысяч адрасоў з кароткімі тэкстамі, складзенымі калекцыянерамі, — апісанне збору, прапановы да абмену, кантакты.

Кніга разбіта па раздзелах. Ад традыцыйных — філатэлія, нумізматыка, баністыка, фалерыстыка да самых арыгінальных — фота НЛА, гумар XIX стагоддзя ў бронзе і г. д. У ёй будзе практычна прадстаўлены ўвесь свет савецкага калекцыяніравання. Акрамя таго, у кнігу ўвойдуць адрасы ўсіх клубаў і таварystваў калекцыянераў краіны.

З 1992 года кніга будзе выходзіць штогод, абнаўляючы інф[illegible]ацыю. Усім — як савецкім, так і замежным збірал[illegible]ам, якія жадаюць увайсці ў 100 тысяч адрасоў і стаць уладальнікамі выдання (па іх пісьмоваму запыту ў адрас ІБК: 103104, Масква, В. Бронная, 6 ), высылаецца бланк-заяўка. Уключэнне ў кнігу раздзела «Зарубежныя калекцыянеры», распаўсюджанне яе і за межамі дасць імп[illegible]ьс для новых міжнародных кантактаў, абмену, сумес[illegible]х выставак.

У. НОВІКАЎ.



Хоць і далёка ад мора Беларусь, але гэта не перашкодзіла жыхарцы Гомеля Лідзії МАЛАХАВАЙ (на здымку) сабраць багатую калекцыю ракавін марскіх і прэснаводных малюскаў, каралаў, зорак і вожыкаў. Усяго—звыш тысячы экземпляраў. Самы маленькі — крыху больш за запалкавую галоўку, самы вялікі дасягае паўметровага памеру. І пра кожны экспанат сваёй калекцыі Лідзія Фёдараўна можа расказаць шмат цікавага. Для гэтага ёй давялося, пайшоўшы на пенсію, вывучыць латынь, сабраць серыю кніг пра жыхароў мора. Калекцыю Л. Малахава ахвотна паказвае землякам, экспанавала яна яе і ў Мінску.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 865